СТАРЫ АЛЬБОМ

СМАРГОНЬ. Найлепшыя ў жыцці – маладыя гады. Для трох сябровак **Мані Шатраўскай, Галі Путырскай, Дуні Сініцкай** гэты час прыпаў на ваеннае ліхалецце. Вайна рана зрабіла іх дарослымі, а душы – сталымі. І ўсё ж маладосць ёсць маладосць. У самых неспрыяльных умовах яна імкнецца выказаць сябе, свае пачуцці і надзеі, імкнецца да весялосці і святла. Таму нават вайной моладзь збіралася, каб патанчыць, паспяваць. І бадай, самым распаўсюджаным захапленнем было сфатаграфавацца на памяць. Партызанскія рэйды, бамбёжкі і пажары – гэта засталося для гісторыі. А для сямейных альбомаў цэлага пакалення – вось такая памяць пра тое, якія яны былі прыгожыя, маладыя, пяшчотныя.

**Галіна Путырская (па мужы Страшынская)** 9 кастрычніка сустракае сваё 75–годдзе – на здымку яна ў цэнтры з гітарай. Дзеці, унукі і праўнукі віншуюць яе і зычаць даўгалецця і аптымізму.



ФОТА З СЯМЕЙНАГА АЛЬБОМА ТАЦЦЯНЫ МІНКО.

ПРЫТУЛАК

# Тры памідорынкі на дзень

## – так харчуецца Галінка

МАЛАДЗЕЧНА. У дзіцячым прытулку другакласніца Галіна К. з тыдзень. Толькі–толькі ногі, як калечкі, пачалі таўсцець. Днямі разбірацца прыходзіла яе маці. Не, Галіна дамоў не хоча. Там матуля моцна біла: не так дзверы зачыніла, не тое сказала. Ды і сілкавацца прыходзілася трыма памідорынкамі за дзень.

Сёння ў прытулку жывуць 8 дзетак. Чакаюць, пакуль іх родных пазбавяць бацькоўскіх правоў. А там наперадзе новы калектыў Радашкоўскага, Валожынскага ці Вілейскага інтэрнатаў.

Дзіцячы прытулак тры гады, як стварыўся на базе садка №20. Каля 40 дзяцей прайшло праз яго за гэты час.

– Хутчэй за ўсё, у нас адзіны такі прытулак у рэспубліцы, – гаворыць загадчыца садка **Вольга Башынская**, – адусюль едуць па досвед. Аднак не чула, каб госці выкарыстоўвалі яго практычна. Шмат праблемаў.

Штомесяц на дзіця з прытулка ідзе каля 6 мільёнаў бюджэтных грошай: чатырохразовае харчаванне, набыццё тавараў для школьнікаў. З цацкамі і адзеннем дапамагаюць мясцовае аддзяленне Чырвонага Крыжа, бацькі звычайных наведвальнікаў дзіцячага садка. Часцяком дарослыя нясуць рэчы з сем'яў.

– Гэты "сэканд хэнд" яшчэ доўга паслужыць, – гаворыць касцялянка **Таццяна Кеўліч**. – Вось сёння дзвюх сястрычак да нас прывялі – трэба цёплае ім падабраць, падагнаць, каб сядзела добра. Дзяўчынкі заўсёды модніцы.

Дзве сястрычкі – гэта пяцікласніцы Юля і Алеся К. У сям'і ладу няма.

– Суседзі добрыя – кормяць. А летам з трэцякласнікам Дзімкам ездзілі ў лес па ягады, – гавораць дзяўчынкі.

У прытулку жывуць яшчэ дзве родныя сястрычкі Вольга і Таня С. Лёс гэтых дзяцей амаль што аднолькавы. А жыццё ў падобных дзяржаўных установах для іх – выйсце.

– Дзяцей мы абавязкова адводзім у школу і забіраем, – гаворыць выхавацель **Алена Шыпілава**, – мы для іх таты і матулі, бабулі і дзядулі. Увечары дашкаляты просяць пачытаць ім казкі. Туляцца да нас – мала было ў іх жыцці цеплыні.

Алене Шыпілавай дапамагаюць у прытулку выхавацелі **Тамара Субач, Ганна Маліноўская**. Чацвёра памочнікаў выхавацеляў па чарзе дзяжураць уначы. У большасці сваёй дзеці знерваваныя – цемры баяцца, ноччу ад сноў прачынаюцца.

Дырэктар садка Вольга Башынская гартае фотаальбом – у прытулка ёсць свая гісторыя. Вось Алег А. Цяпер ён у Радашковічах. Сумуе аб садку. Дзяўчынка Вольга – у Валожыне. Памятаюць, як перад ад'ездам яна плакала: няўжо я нікому не патрэбная?

Напярэдадні Дня маці (пра свята неяк пачулі ад выхавацеляў) дзеткі рыхтуюць падарункі, пішуць лісты. Для сваіх самых родных. Якія ад гэтага сваяцтва адмовіліся.

***Тым, хто жадае ўзяць да сябе на выхаванне дзяцей–сірот, дзяцей без бацькоўскай апекі, прапануем звяртацца ў аддзел адукацыі Маладзечанскага гарвыканкома па тэлефонах 70321, 70163.***

Васіль САВІЦКІ.





Гуляем разам.



Галінка.



Юля і Алеся К.

ФОТА ВАСІЛЯ САВІЦКАГА.

КУЛЬТУРА

# Памяці мастака

Сёлета маладзечанскаму мастаку-графіку **Юрыю Герасіменку–Жызнеўскаму** споўнілася б 50. Яго сябры і калегі **Мікола Аўчыннікаў, Рыгор Мяжуеў, Юрый Церабун, Генадзь Селядзец, Васіль Лазоўскі, Уладзімір Лукашык, Ірына Зубрыцкая** зрабілі аднадзённы пленэр на радзіме мастака.

Яны наведалі Даўгінава, дзе нарадзіўся Юрый, мясцовыя могілкі, дзе ён пахаваны.

Да юбілею мастака будзе прымеркаваная вечарына і выстаўка, на якой плануецца прадставіць творы, зробленыя мастакамі на пленэры.

Альберт АЎЧЫННІКАЎ.

ЗДРАЎНІЦЫ

# Не ўзрост

***Наднарачанскія сосны, захапляюць і чаруюць сваёй прыгажосцю ўсіх, хто апынецца на беразе беларускага мора, убачыць блакіт неба, пачуе шэпт хваляў. Так ёсць сёння, так было і ў 30–х, калі Нарач пачалі інтэнсіўна асвойваць. Сюды працягнулі вузкакалейку, будавалі дачы, летнікі, яхт–клуб, рэстаран. Ваенная навальніца ўсё зруйнавала, спапяліла.***



Ля тургасцініцы ўлетку.

ФОТА З АРХІВА «РГ».

Але сорак год таму сярод стромкіх (па–танкаўску, неабсяжных) соснаў на паўночна–заходнім беразе Нарачы ўлетку з'явіліся першыя палаткі будучай турбазы "Возера Нарач" на 80 месцаў.

У ліку першых "цаліннікаў" былі і работнікі выдавецтва "Звязда", якія ўзвялі ў лясным масіве ўсходняй вёскі Купа больш як дзесяць драўляных домікаў.

Неўзабаве з'явіліся камфартабельныя здраўніцы.

У 1988 годзе аматараў турызму і экскурсій прыняў 9–павярховы корпус гасцініцы "Нарач" (яго і будавалі прыблізна 9 год).

Міналі гады, надышла пара юбілеяў. Іх пачалі адзначаць на курорце ўрачыста, шматлюдна, багата. Толькі сёлета іх некалькі. 35–годдзе адсвяткаваў санаторый "Нарач" (у наступным годзе столькі будзе Дому адпачынку "Нарач"). 10–годдзе справіў санаторый "Белая Русь". Споўнілася 20 год, як з драўлянага, прыстасаванага будынка перамясцілася ў мураваны двухпавярховы сярэдняя школа ў к. п. Нарач. Настала чарга адзначаць 40–годдзе тургасцініцы "Нарач".

Узводзіцца новы корпус на 300 месцаў. За час існавання тургасцініцы было пяць дырэктараў. Цяпер працуе **Леанід Малец**.

Міхась ЧАРНЯЎСКІ.

ВЕРСІІ

# Легенды і рэчаіснасць

***Летась у «РГ» быў змешчаны матэрыял Ігара Кіцікава «Гісторыя іх старая і загадкавая» пра таямніцы Замкавай гары ў Рэчках на Вілейшчыне. Сёння мы друкуем артыкул Аляксандра Зайцава, у якім працягваецца гэтая тэма.***

Авеяная легендамі пра падземны ход і схаванае золата, Замкавая гара ля вёскі Рэчкі, што на Вілейшчыне, не дае спакою шукальнікам скарбаў, якія перыядычна раскопваюць гэты рэдкі помнік, паступова разбураючы яго. А ці было золата і ці быў замак?

Адкрыў Замкавую гару першы даследчык Вілейшчыны **Адам Кіркор** у 1854 годзе ў час сваёй паездкі па Вілейскім павеце, якую ён у 1855 годзе апісаў у рабоце «Археалагічная экскурсія па Віленскай губерні». З таго часу Рэчкі не раз наведвалі вучоныя і не раз гэтае месца трапляла на старонкі навуковых прац. Сам Кіркор пабываў тут двойчы. Затым па яго просьбе, з мэтай вывучэння мясцовасці ў ваенных адносінах, Рэчкі наведаў штабс-капітан Генеральнага штаба **Антон Карэва**. Ім быў складзены падрабязны план мясцовасці і апісанне яе, прычым Карэва апісаў і другую гару, абнесеную двумаваламі.

Пры першым наведванні Рэчак А. Кіркор не змог уважліва абследаваць Замкавую гару. Ён напісаў толькі, што гара складаецца з двух валоў, прычым верхні па акружнасці абкладзены каменнямі і сярод іх ёсць невялікая адтуліна. Па расказах мясцовых жыхароў, яна вядзе ў нейкае падзямелле, «а хто суне туды руку, яна тут жа адсохне». Кіркор устаўляў у адтуліну доўгую жэрдку, але дна не дастаў. Праз два гады, у 1856 годзе, вучоны зноў наведаў Рэчкі. На гэты раз ён «расчысціў ад абломкаў на глыбіню пяць сажняў дзівосна ўстроенае падзямелле, складзенае з калон розных велічынь». Адну з гэтых «калон» Кіркор перавез у Віленскі музей старажытнасцяў. У 1857 годзе вучоны выступіў з дакладам пра Рэчкі на пасяджэнні Віленскай археалагічнай камісіі. Апісанне Замкавай гары было змешчана і ў зборніку «Старажытнасці», выдадзеным у Маскве ў 1865 годзе. Дарэчы, тут Кіркор піша, што «народнае паданне маўчыць пра гэтую гару».

Пра золата ў Рэчках упершыню згадвае **Фёдар Пакроўскі** ў сваё кнізе «Археалагічная карта Віленскай губерні», выдадзенай у 1893 годзе. У заключэнне апісання мясцовых славутасцяў Пакроўскі піша наступнае: «Прыведзенае апісанне дапаўняецца паведамленнем мясцовага настаўніка пра знаходкі прадаўгаватых сярэбраных манет пры Рэчкаўскай царкве і старажытных урнаў і абломка залатой (?) шаблі пры раскопках паліцыяй (?) Рэчкаўскага гарадка». Знакі пытання ў тэксце сведчаць пра тое, што аўтар кнігі сам не ўпэўнены ў атрыманых звестках. Матэрыялы для гэтай кнігі вучоны збіраў шляхам рассылкі на месцы анкет і апытальных лістоў, на якія адказвалі звычайна мясцовыя настаўнік, пісар ці свяшчэннік. Паведамленні іх нярэдка былі недакладныя і супярэчлівыя, таму наўрад ці можна лічыць верагоднымі атрыманыя Пакроўскім звесткі пра знаходкі золата ў Рэчках. Дарэчы, там жа паведамляецца пра знаходкі старажытных урнаў, а іх знаходзяць у курганах. Што ж тычыцца легенды пра схаванае золата і пра замак, які праваліўся, то першы даследчык Рэчак Адам Кіркор пра яе не паведамляе. Напэўна, падобнае паданне з'явілася пазней. Фактычна, на Замкавай гары не было замка. Археолагі лічаць, што Замкавая гара - гэта гарадзішча-свяцілішча, дахрысціянскае культавае збудаванне, якое функцыянавала ў I-V стагоддзях нашай эры, задоўга да часоў войнаў з нямецкімі рыцарамі і мангола-татарамі. Побач з гэтым язычніцкім свяцілішчам знаходзяцца паселішча V-VIII стагоддзяў нашай эры, курганны могільнік і акружанае валамі і равамі гарадзішча-сховішча. На ім людзі пастаянна не жылі, а толькі хаваліся за яго валамі ў выпадку небяспекі. Як бачым, у вёсцы Рэчкі знаходзіцца цэлы комплекс археалагічных помнікаў. Сама ж Замкавая гара з'яўляецца рэдкім археалагічным і геалагічным аб'ектам. Усярэдзіне гары знаходзіцца вялізная глыба кангламерату - пароды, якая ўтварылася ў ледніковую эпоху. Такія буйныя глыбы кангламерату сустракаюцца рэдка, а тут яшчэ ў спалучэнні са свяцілішчам. А можа, гэта не выпадковае супадзенне? Можа быць, нашы продкі наладзілі свяцілішча менавіта на гэтай гары ў сувязі з наяўнасцю ў глыбіні яе цвёрдай пароды, у якой можна прарабіць хады. Магчыма, што імі сапраўды былі прарытыя хады для нейкіх невядомых нам мэтаў, а можа, гэта вынік уздзеяння грунтавых водаў. Замкавая гара поўная загадак, якія выклікаюць у нас шмат пытанняў. Адказаць на іх будзе вельмі няпроста і толькі пасля сур'ёзнага вывучэння самой гары, а таксама збору і асэнсавання ўсіх легендаў і паданняў, звязаных з ёй.

Аляксандр ЗАЙЦАЎ.

ПРЫВІТАННЕ, ШВЕЦЫЯ!

# Швед і ровар

**Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.**

У шведскіх гарадах нікога не здзіўляе від сівавалосай бабулі ў пластмасавым шлеме на ровары. Ровар- нацыянальны від транспарту. Больш нацыянальны, чым аўто "Вольва". Многія вуліцы аддадзеныя веласіпедыстам. Нават паліцыя ў старым Стакгольме патрулюе на веласіпедах.

Практычна на любой вуліцы, але найчасцей ля аўтобусных прыпынкаў і станцый, існуюць афіцыйныя або стыхійныя стаянкі. Чалавек прыехаў з суседняга раёна горада на аўтастанцыю, пакідае ровар побач з пасадачнай пляцоўкай і едзе ў прыгарад на работу на завод. Або паставіў веласіпед і пайшоў па магазінах.

Вечарамі шведы любяць праехаць на двухколавым сябры над возерам, у парку, над узлескам. У адзіноце або сям'ёй ці з сябрамі.

Веласіпеды, шведы пераконвалі нас, самы першы аб'ект для крадзяжу. Але ў нас, беларусаў, такога ўражання не склалася. Большасць машын бывае незамкнёная. Хаця, магчыма, шведскія ровары маюць нейкія супрацьугонныя сакрэты, якія нам у вочы і не кінуліся.

У сям'і журналіста Петэрсана з "Бергслагпостэн", заўзятага веласіпедыста, на ганаровым месцы вывешаныя дыпломы за дасягненні ў веласіпедным спорце. Некаторыя атрыманыя яшчэ ў трыццатыя гады яго бацькам. Любоў да ровара перадаецца ў шведскай сям'і ад пакалення да пакалення.

*Аляксандр МАНЦЭВІЧ.*



*Такі від ля кожнага аўтобуснага прыпынка. Ліндэсберг.*



*На вуліцы, дзе прывілеі маюць веласіпедысты. Цэнтр губерні горад Орэбру.*



*У адным з двароў мястэчка Нора.*

ФОТА АЎТАРА.

ДЫНАСТЫІ

# На кожную школу па некалькі дынастый настаўнікаў

МЯДЗЕЛ. Сярод дынастый настаўнікаў па колькасці лідзіруе сям'я **Леаніда і Надзеі Світаў**. Менавіта ад іх вядзецца адлік. Настаўнікі, цяпер пенсіянеры, працавалі ў Слабадской СШ. Па–суседстве, у Канстанцінаўскай базавай, працавала родная сястра Леаніда Іосіфавіча **Марыя Памецька**. Яе сын **Эдуард** цяпер у Занарацкай СШ разам з жонкай. Дачка іх паступіла ў педуніверсітэт. Родная сястра Эдуарда **Аліна** працуе ў дзіцячым садку №3 Мядзела выхавацелем.

Яе стрыечная сястра з мужам вучаць у Старагабскай СШ. Ёсць яшчэ некалькі прозвішчаў з гэтага генеалагічнага дрэва – настаўнікаў, якія пусцілі карані на Мядзельшчыне.

Надзея Аляксандраўна Світа 40 гадоў адпрацавала ў Слабадской школе, выкладала замежную мову.

– З нашай школы выйшла шмат інтэлігенцыі. Адно з вядомых прозвішчаў – **Георгій Таразевіч.** І цяпер атрымліваю віншаванні з розных куткоў былога Саюза. Нават з Сахаліна.

*Васіль САВІЦКІ.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) | |
|---|---|---|---|
| | | 30.09 | 7.10 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 163 | **164** |
| Кілбаса сыравэндж. | 1 кг | 307 | **390** |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 126 | **123** |
| Селядзец салёны | 1 кг | - | **168** |
| Рыс | 1 кг | 73 | **80** |
| Цукар | 1 кг | 50 | - |
| Грэчка | 1 кг | 90 | **90** |
| Алей | 1 л | 155 | **140** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 29,3 | **27** |
| Маянэз | 250 г | 40 | **42** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 140 | **145** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 48 | **50** |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 50 | **48** |
| Лімоны | 1кг | 150 | **100** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 30 | **35** |
| Масла | 1 кг | 120 | **150** |
| Тварог | 1 кг | 35 | **60** |
| Малако | 1,5 л | 15 | **15** |
| Бульба | 1 кг | 15 | **12** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 35 | **38** |

# Справы масленыя

Кан'юнктура дыктуе цэны. Калі ў магазінах стала цяжка купіць масла (а норма ў Вілейцы, напрыклад, зменшылася да 200 грамаў на аднаго чалавека), то і на базары цэны падскочылі. За тыдзень амаль на сорак працэнтаў. Сапраўды, масла каштуе, на самой справе, шмат даражэй за тыя цэны, што мы бачым на цэнніках у крамах. І ў час імклівага абясцэньвання рубля не дзіўна, што людзі імкнуцца назапасіцца тым прадуктам, у якім можна атрымаць хаця б нейкі выйгрыш для свайго бюджэту. Ды і сённяшнія халадзільнікі-маразільнікі дазваляюць захоўваць гэты прадукт больш-менш якасна. Гэта не мука, якая мае ўласцівасць чарвівець або заводзіць мошак.

Вельмі крыўдна ў такой сітуацыі не самым шустрым, якія не паспелі назапасіць масла, а цяпер дзеля пару соцень грамаў часта прыходзіцца абысці не адзін магазін.

*Мікола ГАЙДУК.*

# ЖДАНОВІЧЫ, 4 кастрычніка

**Цэны за адзін кілаграм**

Паштэт з індычкі .............................. 96000 тыс. руб.
Паштэт з курынай пячонкі ............ 96000 тыс. руб.
Кілбаса вараная"Малочная" .......... 97900 тыс. руб.
"Пікантная" ..................................... 115500 тыс. руб.
"Асабліва малочная" ..................... 136500 тыс. руб.
"Доктарская" ................................. 138000 тыс. руб.
"Клімавіцкая" .................................. 97400 тыс. руб.
Сасіскі "Аматарскія" ..................... 132800 тыс. руб.
Кілбаса вэнджаная "Случ" .......... 147000 тыс. руб.
"Палеская" ..................................... 147000 тыс. руб.
сервелат"Барысаўскі" .................. 172000 тыс. руб.
"Аматарскі" .................................... 181300 тыс. руб.
Кілбаса вэнджаная"Адэская" ...... 168000 тыс. руб.
"Экстра" ......................................... 200000 тыс. руб.
"Салігорская" ................................ 200000 тыс. руб.
Кілбаскі "Гусарскія" ..................... 229200 тыс. руб.

Гэта найбольш танныя кілбасы. Усяго каля 50 відаў.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

# "Небось картошку все мы уважаем"

СМАРГОНЬ. На імя начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкома **Станіслава Юргеля** паступіла тэлеграма з дзяржаўнага прадпрыемства "Аптова-рознічны пладова–агароднінны камбінат" Першамайскага раёна сталіцы. У ёй выказваецца шчырая падзяка за дапамогу ў нарыхтоўцы бульбы, што дазволіла камбінату датэрмінова выканаць план закладкі "другога хлеба" на зіму. Кіраўніцтва камбіната жадае хлебаробам раёна новых поспехаў, здароўя і спадзяецца на далейшае супрацоўніцтва.

Дарэчы, толькі нарыхтоўчай арганізацыі Першамайскага раёна Мінска гаспадаркі Смаргоншчыны рэалізавалі каля тысячы тон адборных клубняў па цане 10 тысяч рублёў за кілаграм, своечасова атрымалі грошы за прададзеную прадукцыю. Смачна есці смаргонскую бульбу, мінчукі!

*Аляксандр ЛАЗОЎСКІ.*

УРОКІ САМААБАРОНЫ

# У нешматлюдным месцы гарадскога парку

***Пры разумовым кантролі інстынкту самазахавання можна развязаць і даволі складаныя сітуацыі. Напрыклад, калі давядзецца выратоўваць не толькі сябе. Уявіце, што вы з дзяўчынай адасобіліся ў нешматлюдным месцы гарадскога парку. Седзіце сабе на лавачцы.***

Яна, крыху стомленая показкамі пра апошнія подзвігі і дасягненні, чакае мужчынскае пяшчоты, як раптам з глыбіні парку чуваць п'яныя выкрыкі. Вы спакойна празлічваеце, што шлях вясёлых хлопцаў будзе недзе па–суседстве і задаяцеся пытаннем пра гарантыю бяспекі.

Калі няма падстаў для ўпэўненасці, варта падняцца і, пакуль ёсць час, перайсці ў іншае месца (нармальная дзяўчына зразумее гэтыя ўцёкі). Калі вы ўсё ж упэўненыя, што без сродкаў абароны ў бязлюдным месцы вам з каханай "нічога не будзе", то чытайце далей.

Магчыма, усё абыдзецца. Але, мусіць, не гэтым разам – рагарачаная кампанія акурат шукала прыгодаў, толькі хлопцам не шанцавала, бо ўсе шарахаюцца, а тут – самотная парачка. Такую хеўру не цікавяць некалькі тысячаў з кішэні хлопца ці залатыя завушніцы паненкі. Небяспека ў іншым.

Прыметы асабістых якасцяў, характэрныя для канкрэтнага чалавека, прытупляюцца ў ступені, залежнай ад колькасці выпітага. З гэтай прычыны, калі п'яных істотаў больш за дзве, іх спавівае статкавы інстынкт з адпаведнымі паводзінамі. Большасці асобаў з гэтае хеўры ў жыцці здаецца, што іх недастаткова паважаюць, таму нападпітку ды з сябрукамі апаноўвае неадольная прага даказаць, "хто ж я". Да таго, пры ідэнтыфікацыі жаночай асобы спрацоўваюць магутныя інстынкты самца ў шлюбны перыяд.

Прыкладны варыянт надалейшага разгортвання падзеяў наступны. У замкнёным коле вакол лавачкі пачнецца нетаропкая дэманстрацыя ўладарства над лёсамі няшчасных. Нехта са словамі: "Харошая ў цябе цёлка!" – па–гаспадарску паляпае яе па мяккіх частках, другі заклапочана пашкадуе: "Ну і склюта ты сабе выбрала" і г. д.

Кідацца ў бойку – глупства, бо сілы няроўныя. Дарэчы, у "апошні бой" варта ісці тады, калі інакш – смерць ці ганьба, якую перажыць будзе немагчыма, і, галоўнае, няма іншых спосабаў выратавання. А вось дзейнічаць сапраўды трэба, толькі не вам, а вашае спадарожніцы. Тэарэтычна яна шмат што можа.

Да прыкладу, звярнуцца да самага аўтарытэтнага:

– Ты ж нармальны мужык. Скажы, у цябе ёсць сястра? Ты што, не можаш супакоіць сваіх хлопцаў, яны ж нічога не цямяць?!

Калі не ўсё адпіта, павінна падзейнічаць, бо ў яго галаве з'явяцца дзве дамінанты: "мяне аценілі" і "яна як сястра" (якой, дарэчы, у таго чалавека можа і не быць, але які хлопчык у маленстве не марыў мець сястру?).

На жаль, рыхтуйцеся да таго, што паводзіны вашае спадарожніцы (спроба абараніць свой гонар з дапамогай сваркі, крыку і г. д.) яшчэ болей раз'юшаць п'яныя галовы. Тут галоўнае – стрымацца і не кінуцца на выратаванне. Пакуль што вы мусіце быць у адным абліччы – бездапаможны слабак.

Магчыма, будуць біць. Тут два варыянты. Калі крыху і для смеху, тады трэба скурчыцца, каб сапраўды было смешна, ды яшчэ злосна агрызацца на слёзныя просьбы спадарожніцы аб дапамозе:

– Ну, завяла мяне....

Такога абаронцу ніхто трымаць не будзе, і гэтым трэба скарыстацца – са словамі: "Ды пайшло яно ўсё!" – можна бясслаўна ўцячы. Жадаючых дагнаць наўрад ці знойдзецца, хіба толькі для смеху патупаць нагамі. А вось калі без жарцікаў збіраюцца адразу моцна збіць, збегчы варта раней. Як – напэўна, выбіраць не давядзецца, але добра, калі ў іх ахвоты даганяць не будзе, і вельмі важна, калі пакінеце ўпэўненасць, што такі па міліцыю не пабяжыць. У гэтым паспрыяе бездапаможная плаксівасць і поўнае адмаўленне ад спадарожніцы:

– Толькі мяне не чапайце.

Такім чынам, вы ўцяклі. Што далей?

Толькі ніякіх там пошукаў тэлефона, міліцыі, дапамогі – згубіце час, а цяпер кожная секунда можа быць вырашальная ў лёсе вашай каханай. Таму – хутчэй на пошукі трывалай зброі. Гэта можа быць кавалак арматуры, абрубак трубы, металічны вугалок, прэнт, клямар, дошка ад лаўкі і да т. п. Падобны карысны прадмет можна адшукаць каля пабудоў, плоту. Цудоўна, калі побач нешта будуецца, там сапраўдны збройны склад. Паднялі, сціснулі рукой – і наперад, у бой! За метраў дваццаць можна крыважэрна зараўці:

– Заб'ю!!! – (бегчы, не спыняцца і адразу біць).

Праўда, хутчэй за ўсё, напаткаць псіха з арматурай у руках жадаючых не знойдзецца.

І апошняе. Калі будзеце прыціскаць выратаваную прыгажуню да геройскіх грудзей, не здзіўляйцеся, калі яна прыпомніць, што вы на яе не так даўно сказалі.

*Вацлаў ПЛЕЧКА.*

